ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 23 (122) 16 - 22 чэрвеня 1995 г. Кошт 500 рублёў

ЯК З ДОМА ЎРАДУ ЗДЫМАЛІ «ПАГОНЮ» - ст. 2.

ЭКАЛАГІЧНЫ МІЛЬЯРД НА ЗАКУСКУ - ст. 3.

ДЗІЦЯЧЫ ТУРЫЗМ ТРЫМАЕЦЦА НА ЭНТУЗІАЗЬМЕ - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## М.СТАТКЕВІЧ: «З ХАЛУЯМІ НЕ ЗМАГАЮСЯ НА ДУЭЛІ. ХАЛУЁЎ Б'Ю ПА МОРДЗЕ».

**Як ужо паведамлялася, шостага чэрвеня ў Савецкім нарсудзе Менска была разгледжана адміністратыўная справа па факту нанясеньня лідарам БЗВ (Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў) М.Статкевічам легкіх цялесных пашкоджаньняў рэжысёру “знакамітага” фільму “Нянавісьць: Дзеці хлусьні” Ю.Азаронку.**

Нагадаем, што 25 траўня М.Статкевіч прыйшоў на кватэру Ю.Азаронка і даў затрэшчыну. Свае дзеяньні лідар БЗВ матываваў тым, што рэжысёр Азаронак вельмі зьняважыў яго, абвінавацілўшы ў самааданасьці фашысцкім ідэалам. Пацярпелы Азаронак, які праз газету “Знамя юности” выхваляўся перамогай у адзінаборстве са спадаром Статкевічам, падаў у суд медыцынскую даведку аб атрыманьні лёгкіх цялесных пашкоджаньняў. Верагодна, баючыся паўтарэньня гісторыі пры сустрэчы з М.Статкевічам, Ю.Азаронак нават не зьявіўся ў залу судовага паседжаньня, а прыслаў туды свайго адваката. Лідар БЗВ на судзе не адмаўляў, што нанёс рэжысёру затрэшчыну; выказаў гатоўнасьць панесьці кару - штраф памерам 60 тыс.рублёў.

Падчас размовы з карэспандэнтам М.Статкевіч сказаў, што, па яго зьвесткам, каля залы суда Ю.Азаронка чакаў гурт людзей, маючых жаданьне плюнуць яму ў твар.

На думку М.Статкевіча, наўрад ці трэба доўжыць акцыю нянавісьці да Азаронка: “Мы сустрэліся з гэтым ”творцам" кінастужак непадалек залы суда. Азаронак вінавата лепятаў, што ня здолее прысутнічаць на судзе з прычыны тэрміновых спраў. Штосьці ён спрабаваў сказаць яшчэ. Затым, засаромеўшыся, адыйшоў. Мне стала яго шкада." Увогуле, - працягваў Мікола Статкевіч, - камусьці вельмі было непажадана, каб я трапіў у залу суда. Мне паведамілі недакладны адрас і сапраўднае месца суда давялося сьпешна шукаць".

На пытаньне, ці мае намер спадар Статкевіч прыняць выклік Ю.Азаронка і выйсьці з ім на паядынак на саблях, лідар БЗВ адказаў так: “З прыслужнікамі на дуэлі не змагаюся, а проста прыслужнікаў б'ю па пысе”.

**СІМ**

## ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ - ВЫБАРЫ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Наўрад ці хто-небудзь спадзяваўся,што выбары ў мясцовыя Саветы на Гарадзеншчыне пройдуць пры больш высокай актыўнасьці выбаршчыкаў, чым у Вярхоўны.**

Паводле папярэдніх дадзеных, 11 чэрвеня прагаласавала 49,3 працэнта выбаршчыкаў, уключаных у сьпісы. І дасягнута гэта, у асноўным, за кошт удзелу ў выбарах сялян. Так, напрыклад, у Слонімскім раёне прагаласавала 80,3 працэнта выбаршчыкаў. Затое ў Ленінскім і Кастрычніцкім раёнах Горадні - адпаведна 26,7 і 22,8 працэнтаў,а ў Смаргоні - усяго 18,8 працэнта. Таму нядзіўна, што па 90 выбарчых акругах у абласны Савет выбрана 29 дэпутатаў. Яшчэ ў 17 акругах 25 чэрвеня адбудзецца другі тур выбараў. У астатніх пройдзе паўторнае галасаваньне, тэрмін правядзеньня якога павінен вызначыць Цэнтрвыбаркам. Цікава, што ніводзін дэпутат не выбраны ў абласны Савет у гарадах, хатя ў той жа Горадні утворана 21 выбарчая акруга.

Яшчэ горшае становішча з выбарамі ў Гарадзенскі гарсавет. З 193 кандыдатаў у дэпутаты, якія балатаваліся па 45 акругах, падтрымку выбаршчыкаў атрымаў толькі адзін - палкоўнік С.Ліс. Пры чым праходзіў ён па акрузе, у якой знаходзіцца вайсковая частка.

Нялепшыя справы і з выбарамі ў раённыя Саветы абласнога цэнтру. Дэпутатамі сталі толькі старшыня Кастрычніцкага райсавета Л.Школьнік і старшыня Ленінскага райвыканкама Б.Казялкоў.

Чым можна растлумачыць нізкую актыўнасьць выбаршчыкаў? Дэфіцытам інфармацыі аб кандыдатах у дэпутаты, тым, што тэрмін правядзеньня выбараў празначаны на лета,а ў першую чаргу тым, што людзі ў большасьці ня вераць у тое, што дэпутаты будуць прадстаўляць і абараняць менавіта іх інтарэсы. І да таго часу, пакуль у народа ня зьявіцца гэтая вера, ніякага плёну ні ад паўторнага, ні ад трэцяга галасаваньня ня будзе.

**С.РЭЎКА**

## ТЭМП - 250%

**“Вытворчасьць валавага прадукту на Беларусі падае з тэмпам 250% у год”, - заявіў міністр эканомікі Ценявога кабінету Беларускага Народнага Фронту Анатоль Станкевіч.**

Асабліва відавочна гэта стане ўвосень, калі будзе зразумела, што сваіх прадуктаў Беларусі на зіму ня хопіць. Ён таксама адзначыў, што 92% працоўных Беларусі атрымліваюць зарплату са спазьненьнем, а шмат хто не атрымлівае па некалькі месяцаў.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ**

## СЯМЁН МІХАЛЫЧ БЫЎ БЫ РАДЫ

**Нарэшце вуліца Будзёнага ў Гародні, на якой знаходзіцца чыгуначны вакзал, пачынае набываць боскі выгляд; ужо праведзена першае пакрыцьцё асфальтам.**

На працягу апошніх трох гадоў тут вёўся рамонт водаправода і цеплатрасы. У больш сьціслыя тэрміны завяршыць рамонт аб'яднаньне жыльлёва-камунальнай гаспадаркі ня мела магчымасьці з-за адсутнасьці сродкаў. Відаць, рамонту давялося б чакаць яшчэ доўга, калі б не адкрыцьцё Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Горадні, якое разьмясьцілася на гэтай вуліцы.

**Д.А.**

## ГІСТФАК ХУТКА «НАКРЭНІЦЦА»

**Напрыканцы мінулага тыдня ў Гарадзенскім купалаўскім універсітэце адбылося паседжаньне вучонай рады факультэта гісторыі і культуры. Шаноўны сход павінен быў вылучыць дзьве кандыдатуры на пасаду дэкана, з якіх пазьней, згодна са статутам, рэктар прызначыць першую асобу гістфаку. Пасьля працяглых дэбатаў было вырашана зьвярнуцца да патаемнага галасаваньня. У выніку: Іван Крэнь -11 галасоў, Тацьцяна Бадзюкова - 10, Валеры Чарапіца - 9, Вячаслаў Швед - 4.**

Няма сумневу, што рэктару больш даспадобы прыйдзецца асоба сп. Крэня (цяпер ён узначальвае кафедру гісторыі Беларусі), неверагодна здольнага мімікраваць і прыстасоўвацца пад любы рэжым.

Калісьці таварыш Крэнь з посьпехам абслугоўваў ідэалагічныя патрэбы гаркамаў-абкамаў. Зараз высунуўся ў рэгіянальныя лідары Партыі народнай згоды (у Горадні, як і ў цэлым па краіне, ёю запраўляюць былыя камуністыя-артадоксы).

Няцяжка прадбачыць наступныя перамяшчэньні ў крэслах: прафесар Чарапіца ўзначаліць кафедру славянскіх дзяржаваў, а вызваленае мейсца сп.Крэня зойме ягоны колішні “партайгэноссэ”, адзін з лідараў мясцовай ПКБ - Іван Іванавіч Коўкель - славуты сьпецыяліст па “националистам всех мастей и времен”.

**Л.М.**

## З ДАБРАЧЫННАЙ МІСІЯЙ

**У чарговы раз наведаў Беларусь з дабрачыннай місіяй апостальскі візітатар айцец Аляксандр Надсан.**

У праграме візіту: перадача лекаў у шэраг шпіталяў, аказаньне дапамогі канкрэтным хворым у арганізацыі іх лекаваньня за мяжой.

Асаблівую ўвагу ўдзяляе айцец Надсан дзецям, пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы.

**Станіслаў СУДНІК**

## ЯК У СТАРЫЯ ДОБРЫЯ ЧАСЫ

**Некалькі дзён на Гарадзенскім тэлебачаньні назіраецца значнае ажыўленьне.**

Прыбіраюцца дарогі і сьцяжынкі, фарбуецца паркан, у пакоях старыя дываны зьмяняюцца на новыя. Прычына такой актыўнасьці тэлевізіёншчыкаў - плануемы на 16 чэрвеня ў Горадню візіт старшыні рэспубліканская тэлерадыёаб'яднаньня.

## РЭКТАР ЗАСТАЎСЯ БЕЗ СУВЯЗІ

**Ад ранку трынаццатага чэрвеня датэлефанавацца ў кабінет рэктара ГрДзМі было немагчыма.**

Прычыну маўчаньня службовага тэлефона спадара Маслакова ў канцылярыі інстытута пракаментавалі так: “Інстытут своечасова не заплаціў сувязістам абанентную плату, што і паслужыла прычынай адключэньня.

Дарэчы, астатнія тэлефоны ў ГрДзМі працуюць.

**Г.Д.**

# КАШТАНЫ, РАЗЛАД І ПРАРОЦТВЫ КУПАЛЫ

## ЛІРЫЧНА-ПАЛІТЫЧНЫЯ НАТАТКІ

Расцьвілі каштаны. Асабліва хораша палымнеюць яны на адной з самых сьветлых вулак Горадні - вуліцы Ажэшкі. Сваёй квеценьню каштаны яшчэ раз сцьвярджаюць: ізноў вясна ўвайшла ў свой зеніт, каб успыхнуць, уразіць і сыйсьці. Маю надзею: сярод гарадзенцаў ёсьць яшчэ тыя, што здольны заўважыць гэтую легкадумна-вясеньнюю цнатлівасьць прыроды, жыць яе чысьцінёй, абуджацца яе абуджэньнем:

Нібы кветкі каштанаў,  
белай хваляй плывуць твае словы,  
ападаюць на вочы і вусны  
далікатнай, празрыстаю явай.  
Нешта сьветлае і жаданае  
зачароўвае, ап'яняе.  
То ня словы твае, то проста  
белай хваляй плывуць каштаны...

Толькі вось сёлета ў сьветлы вясеньні настрой чорнай гадзінай дамешваецца тое жорсткае, злое, але, на жаль, праўдзіваае: гэты люд, што бясконца снуе па веснавых вулках, што бесаромна плюе семкавым лушпіньнем на штораніцы падмеценыя ходнікі, толькі і заслугоўвае тое, што з крыўдай і болем выказаў вялікі Купала ў сваім вершы “Разлад”:

Куды ні глянеш - людзі, людзі,  
Куды ні глянеш - шэльмы, шэльмы..,

што накшталт нашых кандыдатаў у народныя абраньнікі “б'юцца ў грудзі, што значыць: правільныя вельмі”. Не саромеюцца салодкаўедлівым голасам прызнавацца ў вечнай любові: “Я вас люблю, гарадзенцы”. Адразу і ўсіх? І тых, хто ўжо даўно страціў чалавечы воблік і чыя “высокаарганізаваная” матэрыя здольна нараджаць толькі адну думку-праблему: дзе пахмяліцца, каб пасьля, няважна якімі сродкамі, але ажыцьцявіць яе? А хіба можна любіць, здавалася б, нармальных, зусім яшчэ юных стварэньняў і мужчынскага і жаночага полу,. што цынічна плююць слінай пад ногі, або табе ў сьпіну брудным расейскім матам, маючы ад гэтага часам асалоду, а часьцей выкарыстоўваючы “перлы” “великого і могучего” ў якасьці надзейнага, адзіна магчымага сродку дзеля зьвязкі словаў, тых, што здольныя абразіць, прынізіць у кожны момант, што ня здольны рэагаваць прыстойна ні на адну праяву нармальных чалавечых зносін? І разам з тым, па сутнасьці, заўсёды баязліўцаў, сіла якіх толькі “в куче”, у якую “сгрудились малые” (няхай даруе мне расейскі паэт за выкарыстаньне яго верша ў такім кантэксьце). Мушу прызнацца: ня маю ніякіх сілаў любіць такіх гарадзенцаў. Мне крыўдна, што па нашай сьветлай Горадні ходзяць тыя, пра якіх ізноў жа Купала ў тым жа “Разладзе” вымавіў: “А чалавек - ком гною, сала ... ” На класіка крыўдаваць нельга, бо класіка (і гэта аксіёма ) не памыляецца. Як нельга крыўдаваць і на жанчыну, асабліва, калі яна - паэтка. Такая сьветлая, прыгожая, праўдзівая, беларуская, як Тацьцяна Сапач. Ужо колькі часу прайшло пасьля “ўсенароднага волевыяўленьня”, а ў маёй душы ўсё гучыць яе цудоўны верш, у якім - мой настрой, мой сёньняшні боль:

Так, невыносна жыць на гэтай зямлі, калі без  
цябе і крыху іранічных вершаў пра бэз,  
ані да цябе не падобных і нават да  
мяне ані не падобных, а толькі бадай,  
да іншых з табою магчымых дзяцей,  
якім таксама - шкада ... ня будзе прасьцей  
на гэтай зямлі...

Так, нашым дзецям ня будзе прасьцей. Мая дачушка, ужо васьмікласьніца, правучыўшыся шесьць гадоў у беларускай школцы на маёй Радзіме, мусіць зараз вучыцца на расейскай мове ў расейскамоўным класе, бо ні ў адной са школаў Горадні, “где имеются перегибы во введении белорусского языка”, няма ні аднаго белураскамоўнага класу. Цяжка ёй будзе і таму, што кожная бязграматная гандлярка-хамка мае поўнае права кінуць ёй, як зараз яе маці: “Говорите на нормальном языке!” і таму, што сярод сяброўак-аднакласьніцаў родная мова - гэта “наш родной русский язык”, а беларуская - у страшэнным загоне.




... на гэтай зямлі. Яна - па звычцы - завецца нашай,  
а звалася некалі белай...

(Заканьчэньне на 2-й старонцы)



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПАДЗЕЛ НАРОДНАГА ФРОНТУ НА ПАРТЫЮ І РУХ НЕ АДБЫЎСЯ.

**10 чэрвеня ў штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту прайшоў чарговы Сойм БНФ. На ім падалі ў адстаўку старшыня паліткамісіі БНФ Вінцук Вячорка, старшыня перадвыбарчага камітэту БНФ Уладзімір Анцулевіч, а таксама член паліткамісіі БНФ Лявон Баршчэўскі. Яны матывавалі гэты крок нездавальняючымі вынікамі адбыўшыхся выбараў.**

Сойм адхіліў прапановы аб падзеле БНФ на партыю і рух. Выступаючы на ім, намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка адзначыў, што асноўнымі прычынамі паражэньня Фронту на выбарах зьявіліся: ізаляцыя ў грамадзкай сьвядомасьці, а таксама адарванасьць парламанцкай апазіцыі БНФ ад самога БНФ, што прывяло да звужэньня ўспрыняцьця БНФ як грамадзкага руху. "Галадоўка апазіцыі была крокам адчаю, але мы не павінны ўпускаць палітычнай ініцыятывы", - сказаў ён.

Спадар Хадыка заклікаў дэпутатаў Вярхоўнага Савету ад БНФ прыняць удзел у пазачарговай сесіі парламанта: "У цяперашняй сітуацыі апазіцыя павінна глядзець не з пункту гледжаньня той крыўды, якую ёй нанесьлі, а зыходзіць з палітычнай мэтазгоднасьці. Трэба прадухіліць антызаконныя зьмяненьні ў Законе аб выбарах. Адзінае выйсьце - вяртаньне да Закону аб выбарах па зьмешанай сістэме, які і прапаноўваў БНФ". Ю.Хадыка прапанаваў ісьці на паўторныя парламанцкія выбары восеньню, а таксама аддзяліць партыю БНФ ад руху БНФ, каб апошні змог пацягнуць на сябе ўсе ярлыкі, якія навешваюць на БНФ улады". Ён таксама лічыць, што партыя БНФ павінна мець свайго лідара, а рух БНФ - свайго, і не выключыў, што ў гэтым выпадку партыя БНФ будзе перайменавана.

На Сойме выступіў Вінцук Вячорка, які падтрымаў прапанову Ю.Хадыкі аб падзеле БНФ на партыю і рух. "Рух павінен заставацца носьбітам нацыянальнай ідэі, партыя ж - ярка выражанай палітычнай сілай з кансерватыўнай ідэалогіяй".

Сваё бачаньне сітуацыі выказаў лідар БНФ Зянон Пазьняк: "Некаторыя пачынаюць займацца самаедствам,шукаць памылкі. Мы не павінны спадзявацца на такога кшталту ідэалагічныя дзеяньні, маўляў, зьменім назву і тады народ за нас прагаласуе. Падзелу БНФ на партыю і рух ня будзе". Гаворачы аб стратэгіі, ён адзначыў, што яна застаецца ранейшай - адраджэньне Беларускай дзяржаўнасьці. "Альтэрнатывы гэтаму няма, калі мы глядзім у будучыню нашай нацыі". Пазьняк лічыць, што Фронту трэба прарваць інфармацыйную блакаду: "Трэба працаваць на двух узроўнях - вышэйшым, праз аб'яднаньне эліт, у тым ліку і бюракратыі, на падставе захаваньня дзяржаўнасьці і на бытавым. БНФ павінен зьмяніць сваю палітыку на ўзроўні мясцовых структур: непасрэдная праца з насельніцтвам, папулярызацыя сваіх ідэй". Спадар Пазьняк таксама заявіў, што пры БНФ трэба стварыць другі фронт - маладзёжны рух". Па яго словах, пры Фронце будзе створаны інфармацыйны цэнтр з сеткай карэспандэнцкіх пунктаў на Беларусі. А свой бліжэйшы зьезд БНФ плануе правесьці ў пачатку ліпеня.

**СІМ**

## КАШТАНЫ, РАЗЛАД І ПРАРОЦТВЫ КУПАЛЫ

**(Заканьчэньне. Пачатак на 1-й старонцы.)**

Так, я разумею, чаму ў гэту глыбока лірычную, сьветла-журботную плынь роздуму паэткі ўрываецца грубая, жорсткая аплікацыя-ўстаўка:

Ідзіце на !.. шай -
таны, паскуды, крывыя, рагатыя, гады,
сьвіньні, якім даўно нічога "ня нада",
абы вакол штурхаліся,жэрлі такія ж сьвіньні...

Разумею, бо яны ўсюды - сьвіньні, гады, шайтаны. І ім, сапраўды, нічога "ня нада". Яны хочуць, каб усе мы сталі такімі. Яны ўсюды гаспадараць. Прабачаю шаноўнай спадарыні Сапач за гэту абсалютна неабходную грубасьць (праўда,магчыма, ёй зусім не патрэбна маё прабачэньне). Але ўсе ж грубасьці ў "жаночай" паэзіі прыжывацца ня трэба, каб мы ня сталі такімі ж сьвіньнямі. Нам трэба выжыць, застацца людзьмі, каб дажыць да таго часу, калі над нашай усё ж белай зямлёй залунае бел-чырвона-белы сьцяг...

Сапраўды, усюды разлад. Найперш - у грамадзтве, дзе абвастраюцца супярэчнасьці паміж багацьцем і галечай, паміж уладай адных і поўным бяспраўем другіх:

Адзін накраў - багацьце ўмножыў,
Другі згалеў, галей сабакі...
Бяду нажыці ўсякі можа,
Бяды пазбыціся - ня ўсякі.

У тым і веліч класікі - яна прадбачыць. Купала напісаў гэты верш у 1907 годзе, у ім жа - пра сёньняшняе нашай зямлі:

Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лату ліжа.

Але, бадай што самым страшным разладам ёсьць разлад у душы чалавечай, спаганенай, занядбанай, скуль вынішчаны нават самыя мізэрныя рэшткі сьвятога, рэшткі ўсялякай веры: і ў Бога, і ў камуністаў. Хаця, не. У камунстаў, здаецца, рэшткі веры яшчэ ня вынішчаны. Вельмі ўжо прывабная тая сьветлая будучыня, дзе без асаблівых высілкаў - рай для ўсіх. Надзеі на "светлое будущее" разам з "великим русским народом" - гэта, як паказалі вынікі выбараў і рэферэндуму, нешта лепшае, чым сёньняшняе нішто. У зьнявечаных асколках чалавечых душаў перакрыжоўваюцца, пераплятаюцца і не знаходзяць ніякага водгуку ні вышэйшыя праявы дабра і справядлівасьці, ні самыя шчырыя імкненьні сьвядомых беларусаў данесьці сутнасьць таго, што творыцца.

Дабро і зло - ў аднолькавай мерцы;
Сьвіньня сьвятыя думы блоце,
Вужакі сыкаюць на сэрцы,
Душа валяецца ў балоце.

А мо і праўда: гэта ўсё яго работа - чорнага, магутнага д'ябла, што разгуляўся па нашай зямлі? Сапраўды, час сатаны. Бо інакш як растлумачыць тое жахлівае спусташэньне, якое пануе ўсюды? Адказ - ізноў жа ў Купалы:

Адзін чорт весел, зубы скаліць,
Загаціў пекла да варотаў;
Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць ...
Такі разлад - яго работа.

Ці доўга яшчэ будуць панаваць на нашай Беларусі д'ябальскія сілы? Да тых часоў, пакуль людзі, што жывуць на гэтай зямлі, не усьвядомяць,хто яны, дзе жывуць, што ёсьць іх Радзіма, іх дзяржава, не зразумеюць, што і яны - не бязмоўныя, у і ў іх ёсьць вялікі скарб - свая гісторыя, свая мова. Нічога ня зьменіцца, пакуль гэты люд будзе "пракляцьцем свайго краю" (Купала), пакуль ён здольны будзе зьнішчаць сваіх Прарокаў, верыць прайдзісьветам, іх салодкім ілжэпрароцтвам, а ў сапраўдных пасланцоў Сонца пытаць: "Па колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?". Пакуль не пачуюць такіх праўдзівых сёньня словаў аднаго з самых вялікіх Прарокаў беларускай зямлі Янкі Купалы: "Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасьць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаваньне, і добрую славу нашаму народу" (1919г.) Пакуль не зразумеюць, што яны і ёсьць - беларускі народ і яны варты "людзьмі звацца", а ня быць "сьвіньнямі, якім даўно ўжо нічога "ня нада".

**АЛА ПЕТРУШКЕВІЧ**

Травень, 1995.

**Фатаграфаваў Я.ВАНЮКЕВІЧ**

## ЗАБЫЛІСЯ ПРА... ДЭМАКРАТА

Атрымаўшы выбарчыя бюлетэні па выбарах у абласны Савет, жыхары г.Шчучына зьдзіўлены пацiскалі плячыма: у сьпіс для галасаваньня замест пяці прозьвішчаў было ўнесена толькі... чатыры. У сьпісе ня значылася Тацьцяна Смола - кандыдат ад Беларускай сацыял дэмакратычнай Грамады.

Версіі выбаршчыкаў былі самыя розныя. Найбольш распаўсюджаная - маўляў, за дзень перад выбарамі кандыдат спасавала і зьняла сваю кандыдатуру. Але на справе ўсё аказалася значна "празаічней".

Прозьвішча Смолы проста ня ўнеслі ў бюлетэні. Менавіта таму прыхільнікі Тацьцяны не змаглі выказаць ёй падтрымку ў дзень выбараў.

Дзяўчына падала заяву ў раённую акруговую выбарчую камісію з патрабаваньнем разабрацца ў прыкрым інцыдэньце і пакараць тых, хто нанёс ёй маральны ўрон.

Вынікі галасаваньня прызнаны несапраўднымі.

**Ала БІБІКАВА, г.Шчучын**

## ЗЬНІК СЬПІС ВЫБАРШЧЫКАЎ

11 чэрвеня ў Смаргонскім раёне з памяшканьня Суцькаўскага выбарчага ўчастка бясьсьледна зьнік сьпіс выбаршчыкаў. У сувязі з гэтым, акруговая камісія прызнала несапраўднымі выбары на дадзенным участку. Магчыма, што менавіта гэтага і дамагаўся невядомы выкрадальнік сьпісу.

**СІМ**

## ЯК З ДОМА ЎРАДУ ЗДЫМАЛІ «ПАГОНЮ»

**23 траўня па асабістых і грамадзкіх справах я быў у Менску. Пасьля палудня мне трэба было наведаць Міністэрства сацыяльнай абароны, якое знаходзіцца ў правым крыле Дома Ўраду. Калі падыйшоў туды, дык ня мог не заўважыць высотны аўтакран і тралер, якія стаялі каля цэнтральнага ўваходу ў будынак. Ня цяжка было здагадацца,што ідзе падрыхтоўка да зьняцьця "Пагоні". Некалькі чалавек з кіслародным балонам і газазваркай зьніклі ў будынку, каб даставіць іх на страху і з дапамогай зваркі абрэзаць умацаваньні "Пагоні".**



Калі падрыхтоўчыя работы былі закончаны і пачалі здымаць герб, то ён аніяк не хацеў адрывацца ад сьцяны. Урэшце рэшт, ламаць - не будаваць! "Пагоню" паволі апусьцілі на траву.

Рэдкія праходні амаль не реагавалі на тое, што адбываецца. Іншыя выказвалі свае думкі .

-Сёньня здымаюць "Пагоню", але ў хуткім часе яна зноў зойме сваё мейсца. Пабачыце. (Мужчына, гадоў пад 50).

- Беларусы - народ мірны, таму "ваінственная" "Пагоня" нам не падыходзіць. Да гэтага ж "Пагоня" - літоўскі герб, а мы - незалежная дзяржава - і павінны мець свой герб мірнай працы. (Жанчына-пеньсіянерка)

- Але ж марнатраўства! Колькі грошай змарнавалі на сімволіку, а цяпер зноў мяняюць. І ўсё гэта з нашай жабрацкай кішэні. Дзяржаўную сімволіку мяняюць, як цыган каней. Навошта? (Мужчына за 50 гадоў)

**Ільля БАРЫСАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Момант зьняцьця і пагрузкі "Пагоні" на тралер.**

**Фатаграфаваў аўтар.**

## ГУЛЬНЯ ПАД БЕЛА-ЧОРНА-БЕЛЫМІ СЬЦЯГАМІ

Незвычайна высокага ўзроўню майстэрства дасягнулі рэтушоры з беларускага тэлебачаньня. Дэманструючы ў праграме "Спартыўны тэлекур'ер" фрагменты перамožнай гульні беларускай нацыянальнай зборнай над галандцамі, рэжысёры ў тыя моманты, калі на экране зьяўляліся трыбуны, старанна "прыбіралі" колер. Рэч у тым, што на стадыёне, дзе прысутнічала каля 35 тысячаў гледачоў, разьвявалася каля трохсот бел-чырвона-белых сьцягоў і палотнішчаў. Напэўна,гэта было вельмі ўжо недаспадобы прэзідэнцкім "шасьцёркам" - кажуць, што пад час прамой трансьляцыі аб'ектыў камераў вельмі рэдка трапляў на трыбуны. Мне пашчасьціла асабіста прысутнічаць і перажыць незабыўныя хвіліны патрыятычнай узьнёсласьці. Цікава было назіраць за паводзінамі нідэрландзкіх заўзятараў, якія доўгі час з недаўменьнем паказвалі то на мазамбікска-бээсэсэраўскі сьцяг над табло, то на людзкое бел-чырвона-белае мора. Урэшце рэшт, адзін быльі дасьведчаны іхны суайчыньнік вытлумачыў сябрам, што Менск - гэта не Амстэрдам (нацыянальныя колеры беларусаў супадаюць з клубнымі фарбамі "Аякса".Праўда, парадавацца "гарэхавым" прадстаўнікам краіны цюльпанаў у той вечар так і не давялося. Цяжка сказаць, хто толькі меў больш турботаў - трэнер Галандыі Гус Хіддзінк, ці старшыня тэлерадыёкампаніі БТ Рыгор Кісель.

**У.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## САЛАДУХА СЬПЯВАЎ НЕ ДЗЕЛЯ КУЧЫНСКАГА, А ДЗЕЛЯ ПЕРАМОГІ

**Пасьля таго, як адкацілі дзьве хвалі парламанцкіх выбараў, дзе-нідзе на месцах успыхваюць водгукі-ўсплёскі гэтае падзеі. Так, у Кобрыні, дзе, як вядома, выбаршчыкі зноў падтрымалі памочніка прэзідэнта па асабліва важных даручэньнях Віктара Кучынскага, ягоныя пяць супернікаў па палітычнай барацьбе падалі заяву ў Цэнтральную выбарчую камісію й Кобрыньскую міжрайпракуратуру.**

У ёй экс-кандыдаты абвінавачвалі перамогшага на выбарах В.Кучынскага ў "паводзінах...,якія мяжуюць ня толькі з парушэньнем агульнапрынятых у такіх выпадках паміж кандыдатамі нормаў этыкі й маралі, але й Закона аб выбарах і Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 124, якія гарантавалі кандыдатам роўныя ўмовы перадвыбарчай барацьбы". У заяве прыводзіліся й канкрэтныя факты парушэньняў: В.Кучынскі ў сакавіку сёлета прыязджаў у Кобрынь на службовым транспарце, у рабочы час сустракаўся з мясцовымі міліцыянтамі, ваеннаслужачымі гарнізона, каб арганізаваць сваё вылучэньне кандыдатам у дэпутаты ВС, у рабочы час праводзіў нараду з даверанымі асобамі ў памяшканьні гарвыканкама. Урэшце, ім жа быў наладжаны бясплатны канцэрт менскага сьпевака А.Саладухі, які нагадваў перадвыбарчае шоў.

У адказе з пракуратуры было сказана, што заяву праверылі па ўсіх выкладзеных фактах... Ні па водным з іх, парушэньняў, аказваецца ня выяўлена, прынамсі, абапіраючыся на паказаньні сьведак. А на канцэрце, адзначаецца ў адказе вартавых закона, Саладуха сьпяваў зусім не дзеля агітацыі за прэзідэнтавага памочніка, а... у гонар сьвята 50-годзьдзя Перамогі. Вось толькі забыў аб гэтым папярэдзіць слухачоў. Такім чынам, заява "пакрыўджаных" - былых кандыдатаў - прызнана неабгрунтаванай. І праўда - ты бач на іх, з кім цягацца захацелі!...

**ЯГОРЫК**

# ГРАМАДЗТВА

## ЭКАЛАГІЧНЫ МІЛЬЯРД НА ЗАКУСКУ

**У сродках масавай інфармацыі ўжо былі зьвесткі пра рэспубліканскі экалагічны семінар, які адбыўся 1-2 чэрвеня ў Горадні. Кіраваў семінарам Міністр аховы навакольнага асяроддзя М.І.Русы. Удзел бралі таксама віцэ-прэм'ер кабінету міністраў У.І.Гаркун і першы намесьнік старшыні аблвыканкаму М.А.Логвін. На семінары адбылася выстава прыбораў экалагічнага напрамку. Госьці семінару таксама прымалі ўдзел у экскурсіях па трох маршрутах.**

Пра гэта можна было прачытаць у газетах любога напрамку. А вось ці зацікавіўся хто-небудзь, колькі каштавала гэта мерапрыемства? А шкада, бо сродкі ўжываліся не з кішэні ўдзельнікаў, а былі накіраваны з бюджэтных грошай. Агульны кошт гэтага семінару склаў каля аднаго мільярда рублеў.

На што пайшлі гэтыя грошы? На арэнду залы, на аплату гатэля, за аўтобусы, у якіх развозілі эколагаў. Для даведкі: у Горадню зьехалася каля трохсот кіраўнікоў гарадзкіх і раённых інсьпекцый і абласных камітэтаў і г.д. А эколагі, як і ўсе астатнія, любяць падсілкавацца. Таму былі аплочаны іх абеды і сьнеданьні. А вячэры трэба апісваць асобна. Сталы нагадвалі палотны фламандзкіх мастакоў. Як казаў паэт: "вино лилось рекой, сосед поил соседа". І гэтак было ўканцы кожнага маршруту. Адрозьніваліся толькі мейсцы, дзе вячэралі шаноўныя эколагі, блюды, якімі іх частавалі, дый абслуга. Напрыканцы Лідзкага маршрута скрынкі з півам (славутае Лідзкае) падаваліся прама ў салон аўтобуса. Вось гэта сэрвіс!

Зразумела, што паіць і карміць за так цяпер няма дурняў. Таму спачатку пералічы дзяржаўныя грошы прадпрыемстваў, ці калгасаў на "экалагічныя мэты", а потым рот разявай. А колькі было набыта кветак - жывых і ня вельмі, раздадзена букетаў, нататнікаў і аўтаручак! Але ніводны нататнік не выкарыстоўваўся па прызначэньню - запісваць фактычна было няма чаго.

Атрымліваецца, што экалагічны мільярд прафукалі. Колькі ж добрага можна было б зрабіць за гэткія грошы на шматпакутнай Беларусі!

Адразу за гэтым семінарам у Беларусі адбыўся наступны - сельскагаспадарчы, з удзелам прэзідэнта. Цікава, а колькі каштаваў ён?

**МАКСІМ ГОРКІ.**



**ЛЮБЫ КОНІК МОЙ...**

**Фатаграфавала А.БІБІКАВА.**

## ВЕРТЫКАЛЬ У «ТУНЭЛІ».

Прачытаў у Вашай газеце N 7 артыкулы "ТУНЭЛЬ" і "Прэзідэнцкая вертыкаль - паралель мінулага". Допісы слушныя і дапаўняюць адзін другі, даюць ацэнку дзейнасьці ўрадавых колаў. Рыгор Куксаў напрыканцы свайго артыкула ставіць пытаньне: "А што, калі не пакончым?", маючы на ўвазе карупцыю. На маю думку, з карупцыяй мы цяпер не пакончым, таму што ні цяперашні ўрад, ні вертыкаль, ні "паралель" ня маюць намеру з ёю змагацца. Гэтай бруднай справай будуць займацца і надалей, хіба толькі іншыя людзі.

Да падобнай высновы я прыйшоў таму, што такое ж пытаньне задаваў начальніку Галоўнага ўпраўленьня Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пану С.Ш.Гараеву. Задаць пытаньне на гэту тэму я меў слушныя падставы, тым больш, што, пры асабістым спатканьні, спадар В.Б. Даўгалеў - начальнік Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта - паабяцаў, што мне дадуць адказ ягоныя службы і нават ён сам прыме ўдзел у адшуканьні справядлівасьці ў асабістых пытаньнях. С.Ш. Гараеў нават ня ведае, хто будзе вырашаць такія пытаньні, паколькі яму такой каманды не было.

Праўда, праз пэўны час да мяне зьявілася спадарыня Сьвірына (дакладна аб ёй нічога ня ведаю) і паведаміла, што згодна з тлумачэньнямі, якія яна атрымала ад мясцовых улад, ніякіх парушэньняў законнасьці яна не знайшла, і, паколькі яна не сьпецыяліст па пытаньнях, якія я задаваў, то лічыць, што няма чаго падымаць гвалт, ёсьць больш сур'ёзныя справы. Але ж для каго дробязь, а для каго пытаньне жыцьця. Дык чаго ж нам чакаць, калі маем такі падыход да вырашэньня людзкіх пытаньняў з боку прэзідэнцкай вертыкалі? А менавіта гэтай структуры людзі паверылі, а што атрымалі? Іх скаргі адаслалі "на рэагаваньне", як і ў недалёкім мінулым, мясцовым органам улады, глыбока карумпаванай наменклатуры, а людзей - на яшчэ большыя зьдзекі.

Я не хачу сказаць, што ў Прэзідэнцкай вертыкалі сабраліся толькі абыякавыя асобы. Ёсьць там і сумленныя людзі, якім баліць за лёс краіны і яе народа. Яны імкнуцца, па меры сваіх магчымасьцяў, супрацьстаяць карумпаванай бальшавіцкай наменклатуры. Але ў Прэзідэнцкую вертыкаль, асабліва на раённым узроўні, увайшлі прадстаўнікі АПК. А гэта, на мой погляд, самая несумленная частка людзей. Галоўнае - дагадзіць чыноўніку, незалежна ад яго пасады і, каб паказчыкі былі "на ўзроўні". Якім чынам яны "дасягнуты", нікога гэта не турбуе. А каб мець адпаведныя паказчыкі, без падману і розных злоўжываньняў не абыйсьціся. Прасьцей мець у гаспадарцы неўлічаных кароў, няўведзеныя ў севазварот гектары ворыва, вось і будуць патрэбныя паказчыкі без усялякіх намаганьняў. І ўсе задаволеныя.

Такім чынам выходзяць у "передавікі" і карыстаюцца пашанай у начальства. Я не магу зразумецць: якую карысьць прыносяць краіне шматтысячныя структуры абібокаў з АПК? Яны даўно зжылі сябе. Але ж моцна трымаюцца за свае цёплыя мейсцы ды мяккія крэслы. А паколькі вялікая колькасьць з іх апынулася ў Прэзідэнцкай вертыкалі, то жыць яны будуць яшчэ доўга і аніякай рэформы ў сельскай гаспадарцы не дапусьцяць.

Прэзідэнт, як былы калгасьнік, усё гэта павінен добра ведаць.

Я зьвяртаюся да ўсіх сумленных людзей, каму не абыякавы лёс краіны і яе народа. Ня верце абяцанкам прабальшавіцкай наменклатуры і гуртуйцеся вакол дэмакратычных сіл, начале якіх знаходзіцца Беларускі Народны Фронт. Калі вы хочаце ўбачыць сьвет напрыканцы тунэлю, добра падумайце, хто сапраўды хоча вывесьці вас да таго сьвятла.

**Ф.АЎДЗЕЙ,**
**сябра Сялянскай партыі.**

## ЖАРТ

*Мусульманскі сьцяг у нас*
*Ўжо вісіць ад раньня,*
*Хутка прыйдзе дзядзя Саш',*
*Зробіць абразаньне.*

*Я ня знаю дзе дзяваць*
*Гэнтую патрэбу,*
*Тут ня то што абразаць,*
*Тут надточваць трэба.*

*Той, каторы падтрымаў*
*Рэферэндум ўчора,*
*Сам, напэўна, не чакаў*
*Вось такога гора.*

*Рэферэндум падтрымаў,*
*Учыніў злачыну,*
*Мазгаўнёю не дапяў -*
*Падстаўляй начыньне.*

*І вам, бабы, ад таго*
*Надта не прыбудзе,*
*Лукашэнкі аднаго*
*Вам замала будзе.*

* * *

*Што магу я вам дадаць*
*Ды на жарты тыя?*
*Будуць дурняў абразаць*
*Зноў па саму шыю.*

**Тарас з-пад Парнаса**

## НАКАЗЫ ПАВІСЬЛІ Ў ПАВЕТРЫ

**Ужо некалькі дзесяцігоддзяў жыхары Скідаля ўдыхаюць сьмярдзючае паветра. А чаму? Ды таму, што вадкія нечыстоты, ад якіх ідзе смурод, самацёкам плывуць (а гэта каля 2 тысяч кубаметраў у суткі) у раку Доўжыцу, а адтуль у Котру і Нёман. Нечыстоты атруцілі ўсё ў Доўжыцы, труцяць у Котры і Нёмане. Насельніцтва горада і навакольных вёсак пакутуе ад алергіі і хвароб дыхальных органаў.**

Дзесяткі разоў людзі ставілі перад дэпутатамі і перад кіраўнікамі мясцовай улады пытаньне аб будаўніцтве ачышчальных збудаваньняў, інакш экалагічная катастрофа ўсіх загубіць. І што? Ім абяцалі разабрацца, але абяцанкі абяцанкамі й засталіся. Былі і наказы дэпутатам, але яны павісьлі ў нашым сьмярдзючым паветры безвынікова.

Праўда, больш за тры гады таму пачалося будаўніцтва ачышчальных збудаваньняў. Але работы за гэты тэрмін выкананы толькі на 40%. А цяпер? Цяпер няма грошай і ёсьць пагроза кансервацыі будаўніцтва.

Ці ж былі магчымасьці пабудаваць ачышчальнік? Былі. Калі раён хадзіў у перадавіках у вобласьці, - былі грошы. Але тады кіраўнікам раёна было не да таго, іх больш цікавілі слава і дзяржаўныя ўзнагароды. Таму і загубілі прыроду, давялі яе да катастрофы.

**ІЛЬЛЯ БАРЫСАЎ,**
**Сябра таварыства аховы прыроды.**



**НА ЗДЫМКУ: Вадкі бруд горада цячэ ў раку Доўжыцу. Фота аўтара.**

## СЬМЕРЦЬ ЛЕПЕЙ ЗА САБАЧАЕ ЖЫЦЬЦЕ?

Калі верыць інфармацыі, зьмешчанай у газеце "Вечерний Брест", нядаўна 47-гадовы мужчына, які па нейкіх прычынах вырашыў разьвітацца з жыцьцём, ніяк ня мог абраць "лепшы" сродак для зьдзяйсьненьня свайго намеру. Урэшце, ён вырашыў павесіцца. Аднак добрай вяроўкі пад рукой не аказалася... Тады ён з адчаю адчапіў павадок ад уласнага сабакі і ... Скураны раменьчык аказаўся надзіва моцным. Выратаваць самагубцу не ўдалося.

Другі выпадак мае больш шчасьлівы канец. На берасьцейскім заводзе "Газаапарат" рабочы падчас абедзенага перапынку так прагна націскаў на "тармазок", што ўдавіўся кавалкам хлеба з каўбасою. Пасьля чаго адразу стаў сінець ды задыхацца. Аднак ягоны таварыш, не марудзячы, ускінуў няшчаснага на плячук ды пацягнуў у медпункт. Менавіта дзякуючы такому скалананьню, хлеб з рота рабочага выпаў, і ён быў уратаваны. Пагаворваюць, цяпер рабочыя "Газаапарату" жуюць свае бутэрброды вельмі акуратна...

## КАЛІ НЯ СПАЛЯЦЬ ЗАЙЗДРОСЬНІКІ, ТО «ЗЬЯДУЦЬ» БЮРАКРАТЫ

21 фермерская гаспадарка налічваецца сёньня ў Кобрынскім раёне. У карыстаньні больш за 400 гектараў зямлі, аднак гэтая лічба складае ўсяго прыблізна 0,4 працэнта ад агульнай плошчы ўсіх сельскагаспадарчых угоддзяў Кобрыншчыны. Займаюцца фермеры ў асноўным земляробствам. Але апошнім часам жадаючых самастойна працаваць на зямлі ўсе меней. У асноўным, як заўважаюць тыя, хто хацеў пайсьці на "вольныя хлябы", але па нейкіх прычынах перадумаў, з-за бюракратычных рагатак ды марнасьці намаганьняў ужо працуючых фермераў.

**ЯГОРЫК.**

## ЯСКРАВЫ ПРЫКЛАД ФАРЫСЕЙСТВА

Нялёгла цяпер жывецца некаторым дзяржвыданьням. З аднаго боку - палітычная цэнзура, з другога - ціск эканамічны. Праблемы безграшоўя розныя рэдактары па-рознаму вырашаюць. Рэдактар "Настаўніцкай газеты" знайшоў самы просты выхад - пагнаўшыся за рэкламадаўцам, ён сьледам за бальшынёю сваіх калегаў рашуча махнуць рукою на закон і мараль. А каб неяк зьмікшыраваць справядлівыя заўвагі чытачоў, на чацьвёртай старонцы свайго выданьня прыпісаў: "Аб'явы могуць друкавацца ня толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах". Да чаго гэта прыводзіць, відаць на першай старонцы газеты за 18.03.95г., на якой зьмешчаны чарговы заклік "Ня дайце загінуць роднай мове!" і тут жа - аб'ява дэкана фізфака БДУ Кліщчанкі на рускай мове. Ну ці ж ня ганьба! Няўжо тыя, прабачце, шышы, якія Вы, Алег Мечыслававіч, атрымалі за гэтую аб'яву, істотна дапамогуць Вашай газеце? Ня думаю. А вось перад грамадзтвам Вы ўжо засьведчылі сябе як фарысей і бесхрыбетная асоба. А бесхрыбетных адным пальцам згінаюць у крук і ... Самі ведаеце, што робяць потым.

Дык здыміце Вашу прыпісачку, перастаньце згінацца, пакуль яшчэ можна перастаць.

Апошнім часам "Настаўніцкая" палепшала зьместам, друкуе цікавы дадатак "Айчына". Навошта ж бочку мёду паскудзіць лыжкай дзёгцю? Ня трэба! А каб ведаць, чыю аб'яўку па-руску Вы надрукавалі, пачытайце "статеюшку" "Каждому физмату..." у газеце "Белоруссия", N 7.

**НАЦЫЯНАЛІСТКА.**

# СУМЕЖЖА

## САВЕЦКАЯ ЎЛАДА БОЛЬШ НЕ ІСНУЕ НА УКРАІНЕ

**Восьмага чэрвеня ў Марыінскім палацы адбылося падпісаньне Канстытуцыйнай дамовы паміж Вярхоўным Саветам Украіны і прэзідэнтам Украіны.**

На цырымоніі падпісаньня Леанід Кучма заявіў, што ён таксама падпісаў указ аб адмене папярэдніх сваіх указаў аб плебісцыце. Раней, на прэс-канферэнцыі, якая адбылася сёмага чэрвеня ў адміністрацыі прэзідэнта, навуковы кансультант прэзідэнта па прававым пытаньням - Хведар Бурчак - сказаў, што вертыкаль супадпарадкаваньня існуе зараз у заканадаўчай уладзе. Законам аб уладзе і Канстытуцыйным дагаворам аб увядзеньні ў дзеяньне гэтага Закона аб уладзе і мясцовым самакіраваньні Савет траціць правы ўмешвацца ў іншыя галіны ўлады, бо перастае быць Вярхоўнай уладай над выканаўчай, судовай уладай, як было да гэтага часу. Лозунг "Уся ўлада Саветам" становіцца нелегетымным. Вертыкаль заканадаўчай улады болей не існуе, Вярхоўны Савет будзе выключна займацца тым, чым займаюцца заканадаўчыя ворганы ва ўсім сьвеце - заканадаўствам. Хведар Бурчак падкрэсьліў, што, называючы Канстытуцыйны дагавор аб увядзеньні ў дзеяньне Закона аб уладзе і мясцовым самакіраваньні пераваротам, левыя сілы ў парламанце і тыя, хто іх падтрымлівае, забылі, што дзейная канстытуцыя, па сутнасьці, зьяўляецца канстытуцыяй УССР, была прынята Украінай, як праваπераемніцай УССР, і не канстытуцыйнай большасьцю, а простай большасьцю, і тады гэта ніхто не назваў пераваротам. А так як канстытуцыйны дагавор, за які сёмага чэрвеня прагаласавала 240 дэпутатаў, прыняты дабраахвотна і без прымусу, то ўступленьне ў дзеяньне Закона "Аб дзяржаўнай уладзе і мясцовым самакіраваньні ніяк нельга назваць пераваротам. У выніку ўступленьня ў дзеяньне Закона аб уладзе, прэзідэнт не атрымлівае дадатковых паўнамоцтваў, як гэта жадаюць паказаць ня згодныя з увядзеньнем закона дэпутаты. Гаворка ідзе аб тым, што Вярхоўны Савет траціць паўнамоцтвы, якія не адпавядаюць воргану заканадаўчай улады. Увесь сыр-бор выкліканы тым, што гэты закон нарэшце кладзе пачатак канкрэтнаму разьдзяленьню галін улады, а гэта адкрывае шлях да рэформаў. На пытаньне, ці можна лічыць, што савецкая ўлада ў першапачатковым выглядзе спыніла сваё існаваньне на Украіне, Хведар Бурчак адказаў станоўча: "Так".

**СІМ**

## КІЕЎ

"Пытаньні, зьвязаныя з Крымам і Чарнаморскім флотам, сталі нашай нацыянальнай праблемай і падставай для шантажу Украіны Расеяй", - гаворыцца ў распаўсюджанай 12 чэрвеня заяве Народнага Руху Украіны. Аўтары заявы лічаць, што падпісаны прэзідэнтамі Расеі і Украіны дакумант, які датычыцца Крыму і Чарнаморскага флоту, "патрабуе сур'ёзных удакладненьняў і карэктываў". Народны Рух патрабуе ад Вярхоўнага Савету Украіны не марудзячы разглядзець пытаньне аб ратыфікацыі пагадненьня аб падзеле Чарнаморскага флоту для ўнясеньня неабходных карэктываў у адпаведнасьці з дзяржаўнымі інтарэсамі Украіны".

**(Э.-Х.)**

* * *

"Пагадненьне аб падзеле Чарнаморскага флоту "парушае прынцып пазаблокавасьці Украіны і ўскладняе яе інтэграцыю ў эўрапейскія структуры", - заяўляе Кангрэс украінскіх нацыяналістаў (КУН).

Сябра арганізацыі лічыць, што Вярхоўны Савет Украіны не павінен ратыфікоўваць пагадненьне. КУН таксама патрабуе неадкладнага вываду замежных войскаў з тэрыторыі Украіны".

**СІМ**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Паводле дэпартаманту статыстыкі, у канцы красавіка адзначаны найбольш высокі ўзровень беспрацоўя ў балтыйскіх краінах. У Латвіі - 6,5 прац., у Летуве ён склаў 5,8 прац., Эстоніі - 3,1. У Летуве аднак зарэгістравана найбольш людзей, якія не працуюць або шукаюць працу - 107,8 тыс. У параўнаньні з мінулым годам яна вырасла на 63,3 прац.

* * *

Частку сваёй бібліятэкі - звыш 200 тамоў - перадаў у якасьці падарунка летувіскай амбасадзе ў Расеі дацэнт універсітэту ім. Баўмана Валеры Барысаў. Кнігі зьбірала яго сястра Яўгенія Барысава. 30 гадоў яна працавала ў маскоўскім выдавецтве "Художественная литература" і рэдагавала творы летувіскіх пісьменьнікаў, якія перакладаліся на расейскую мову.

* * *

Найлепшым студэнтам і дактарантам Тэхнічнага універсітэту ў Коўні прызначана шэсьць імянных стыпендыяў - па 250 доляраў. Фундатарамі зьяўляюцца амерыканкія летувісы.

* * *

Па ініцыятыве прэм'ера А.Шляжавічуса адбылася тэлефонная размова з В.Чарнамырдзіным. Апошні паабяцаў, што грошы летувісаў, якія яны трымалі ў былым савецкім банку "Внешэкономбанк" будуць пераведзены ў Летуву яшчэ ў гэтым годзе. Расейскі прэм'ер запэўніў таксама, што будзе вырашана і праблема маёмасьці Летувы за мяжой (будынкі амбасадаў у Парыжы і Рыме), якой цяпер распараджаецца Расея.

* * *

"Міждзяржаўныя летувіска-польскія адносіны й на сёньняшні дзень разьвіваюцца нармальна, перспектывы на будучыню таксама добрыя", - заявіў пасол Сойму Вітаўтас Плячкайціс, які ўдзельнічаў у сустрэчы левувіска-польскай парламанцкай групы ў Варшаве. Група гэтая сочыць за тым, як рэалізуюцца пастановы летувіска-польскага дагавору.

* * *

"Не дапусьцім, каб Віленскі універсітэт упаў", - паабяцаў прэм'ер А.Шляжавічус, выступаючы на паседжаньні савету і сенату навуковай установы. Сёньняшняя сітуацыя Віленскага універсітэту вельмі цяжкая і паважная, але не безнадзейная.

"Лічу, што збанкрутаваць могуць закрытыя акцыянерныя таварыствы, банкі, нават міністэрствы. Банкруцтва універсітэту было б аднак падобнае да банкруцтва ўсёй краіны", - сказаў рэктар, прафесар Р. Павіленіс.

А тым часам адна з вядучых газет "Летувос рытас" пачала падкопвацца пад рэктара, які скардзіцца на цяжкае становішча універсітэту і на адсутнасьць фінансавых сродкаў на летувіскую навуку. Аказалася, што рэктар не забывае і пра сябе. Журналісты высьветлілі, што ён выкупіў ва ўніверсітэцкім доме кватэру толькі за 800 літаў (200 долараў), а навуковай установе прадаў сваю машыну за 15 тыс. літаў.

* * *

Тыражом у паўмільёна экзэмпляраў выпушчаны 3 новыя паштовыя маркі з серыі "Знакамітыя людзі", прысьвечаныя біскупу М.Валанчусу, пісьменьніцы Жамайце і легендарнаму тэнару К.Пятраўскасу - наміналам 30, 40 і 70 цэнтаў адпаведна.

* * *

Урад сьпецыяльнай пастановай узмацніў кантроль за паштовымі пасылкамі ў Летуву і з Летувы. Сьпісак забароненых тавараў вельмі вялікі, сярод іх ёсьць, між іншым, і прадметы з непрыстойнымі надпісамі і выявамі.

* * *

У Вільні прайшло "Сьвята нацыянальных культур-95", якое арганізаваў цэнтр культурнай дзейнасьці ўсходняй Летувы і Дэпартамант рэгіянальных праблемаў і нацыянальных меншасьцяў. Гэта ўжо другое такое сьвята. Канцэрты адбыліся ў многіх залах горада, а таксама пад адкрытым небам. Беларусы выступалі разам з эстонцамі і гаспадарамі ў падворку Дома Настаўніка.

* * *

Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, клуб "Сябрына", Таварыства беларускай школы, а таксама члены Таварыства Мастакоў ім. Сяргіевіча прынялі заяву летувіскіх беларусаў па выніках рэферэндуму ў Беларусі. Распаўсюдзіць яе афіцыйнымі каналамі праз агенцтва "Эльта" не ўдалося, бо агенцтва яе не прыняло. Зьмешчана яна была толькі ў польскамоўным "Кур'еры Віленскім" і "Вечерних новостях".

**УЛАДЗІСЛАЎ СТРУМІЛА**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### «АД КАМУНІЗМУ - ДА ДЭМАКРАТЫІ»

**150 палітыкаў, палітолагаў ды навукоўцаў з усяе Эўропы ўдзельнічалі ў кракаўскай міжнароднай канферэнцыі пад дэвізам "Ад камунізму да дэмакратыі", прысьвечанай шляхам выйсьця з таталітарызму. Трохдзённая сустрэча была арганізавана Міжнародным цэнтрам Разьвіцьця Дэмакратыі.**

Сабраныя ўшанавалі хвілінай цішы памяць усіх ахвяраў карычневага ды чырвонага таталітарызму.

Адкрываючы канфэрэнцыю, адзін з кандыдатаў на месца прэзыдента Польшчы ў будучых выбарах - Яцэк Куронь - прыгадаў, што дакладна 6 гадоў таму ў Польшчы адбыліся дэмакратычныя выбары, каторыя адкрылі гістарычныя карты ў той час, калі ў Кітаі людзі, якія дамагаліся дэмакратыі, былі задаўленыя танкамі на пляцы Тэнанмань.

"Ствараючы дэмакратычны парадак, мы ня можам забывацца пра рознага роду таталітарызмы ", - сказаў Яцэк Куронь. Ён гаварыў пра бездапаможнасьць Эўропы пры вырашэньні гэтае праблемы, прыгадваючы пра вайну ў Чачні ды Босьніі й Герцагавіне.

Веймарскай рэспублікай назваў сваю краіну ўпаўнаважаны па правах чалавека Сяргей Кавалёў падчас выступленьня на канферэнцыі. На думку расейскага госьця, дэмакратыя ў Расеі вельмі хісткая, а сама гэтая краіна - амаль таксама, як некалі Вэймарская рэспубліка Нямеччыны ператвараецца ў таталітарную фашысцкую дзяржаву. Віной за такі стан рэчаў Сяргей Кавалёў абцяжарыў людзей, якія цяпер кіруюць Расеяй, у тым ліку й Барыса Ельцына.

У канферэнцыі ўдзельнічалі палітыкі з Беларусі і былы сьпікер беларускага парламанту Станіслаў Шушкевіч ды старшыня БНФ Зянон Пазьняк.

### КАТЫНЬ - НАШ СМУТАК

**Прэзідэнт Лех Валенса выказаў надзею, што пакуты забітых у Катыні польскіх жаўнераў будуць перасьцярогай для сьвету, ды наказам будаўніцтва лепшае будучыні. 4 чэрвеня ў катынскім лесе адбылася ўрачыстасьць закладаньня краеўгольнага камня ды эрэкцыйнага акту пад будову вайсковых могілкаў палеглых польскіх жаўнераў.**

"У таталітарнай Польшчы слова Катынь лічылася антыдзяржаўным, а сусьветныя правадыры ў імя эгаістычных інтарэсаў стараліся гэтага слова не ўжываць", - сказаў прэзідэнт Польшчы на месцы, дзе НКВД у 1940 годзе забіла тысячы польскіх афіцэраў, у тым ліку шмат беларусаў па паходжаньні.

* * *

Міністр Нацыянальнае Адукацыі Польшчы Рышард Чарны на канферэнцыі, што адбылася 12 чэрвеня на Ўроцлаве, сказаў, што школы, якія да 1 чэрвеня 1996 году маюць быць перададзеныя гмінам, будуць перадавацца без даўгоў.

Рэч у тым, што ўсе школы маюць вялізныя даўгі, і перад перадачай у рукі павінны гэтыя даўгі пааддаваць, бо інакшай мясцовым уладам нявыгадна ўдзельнічаць у падобнай "прыватызацыі".

Міністр растлумачыў, што ягонае ведамства хоча ад новага году ўвесьці для асьветы "нулявы варыянт". Усе даўгі школаў возьме на сябе міністэрства Адукацыі. Міністр Чарны сьцьвердзіў, што дагэтуль даўгі школаў застаюцца нявырашанай праблемай.

* * *

На арганізаваным нядоечы семінары "Будаўніцтва грамадзянскага грамадзтва" сьцьверджана, што фонды Польшчы ў большасьці сваёй - бедныя. Таму яны дамагаюцца, між іншым, права вядзеньня гаспадарчае дзейнасьці, пашырэньня падатковых ільготаў для тых, хто перадае сродкі фондам, а таксама датаваньня іх з дзяржбюджэту.

### ЗА ТАРАЗЕВІЧАМ БУДЗЕ СЯНЬКО?

**Як паведаміла ПАП, прэзідэнт Лукашэнка паклікаў на іншую пасаду пасла Беларусі ў Польшчы сп. Рыгора Таразевіча, які балатаваўся ў парламанкіх выбарах і падчас выбарчае кампаніі крытыкаваў прэзідэнта ды выказваўся супраць правядзеньня рэферэндуму.**

На думку назіральнікаў, адстаўка Таразевіча можа азначаць пачатак кадравых зьменаў у беларускім МЗС. У гэтым кантэксьце ўсё часьцей гучыць прозьвішча сёньняшняга міністра замежных справаў Беларусі Уладзіміра Сянько, дарэчы - былога пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

* * *

Паліцыя горада Легніца затрымала траіх грамадзянаў Расейскай Федэрацыі, якія ўдзельнічалі ў разбоі. Расейцы, якія ехалі на "фордзе сіера" змусілі затрымацца грамадзяніна Украіны, які ехаў на аўтамабілі "Палянэз", пачалі патрабаваць грошай, пагражалі нажом і абяцалі зьнішчыць аўтамабіль. У гэты момант пад'ехаў патруль паліцыі, які нейтралізаваў напад. Расейцы знаходзяцца ў легніцкім арышце, а справай займаецца пракуратура.

* * *

Каардынацыйная камісія Габрэйскіх Таварыстваў ды Арганізацый, якія дзейнічаюць у Польшчы, выдала асьведчаньне, у якім катэгарычна пратэстуе супраць антысеміцкага выступленьня ксяндза Генрыха Янкоўскага - пробашча парафіі сьвятой Брыгіты ў Гданьску. Казаньне пралата ў прысутнасьці прэзідэнта Леха Валенсы не сустрэлася з ягоным супрацівам.

"Патрабаваньне, каб члены ўраду давялі, што яны не паходзяць з Ізраэля, ставіць кс. Янкоўскага ў адзін шэраг з найбольш лютымі антысемітамі. Гэтую паставу ксяндза Янкоўскага падкрэсьлівае нечуваная заўвага, што, маўляў, зорка Давыда ўпісаная ў сімвалы сярпа й молата, а таксама свастыкі..." - гаворыцца ў асьведчаньні.

**А.Н.**

## РАСЕЯ

### МАСКВА

Падтрымаць адозву Радыкальнай партыі аб далучэньні Босьніі да Эўрапейскага Саюзу заклікае эўрапейскіх парламантарыяў старшыня пармаманта Босьніі-Герцагавіны Міра Лазавіч. Ён лічыць, што падтрымка і падпісаньне эўрапейскімі парламантарыямі гэтай адозвы азначалі б "адмову ад пазіцый нейтралітэта і выбар дэмакратычнага лагера ў барацьбе з ультранацыяналізмам і фашызмам, трохгадовым генацыдам у Босьніі-Герцагавіне".

Ліст М.Лазавіча цяпер распаўсюджваецца сярод дэтутатаў Эўрапарламанту, а таксама дэпутатаў з ЗША і краін былога СССР. Яго ўручаць кіраўнікам дзяржаў і ўрадаў краін-членаў Эўрапейскага Саюзу: 26 чэрвеня ў Каннах Радыкальная партыя плануе правесьці дэманстрацыю, прымеркаваную да прызначанага на гэты дзень паседжаньня Эўрапейскага Саюзу. Аб гэтым 12 чэрвеня паведаміла Маскоўская штабкватэра Радыкальнай партыі.

* * *

"Расейскія ўлады падманваюць эўрапейскіх лідараў, марнуючы крэдыты на эсэсаўскія карныя акцыі ў Чачні", - такую заяву зрабіла лідар Дэмакратычнага саюзу Расеі Валерыя Навадворская падчас сваёй паездкі 3-9 чэрвеня ў Францыю і Люксембург.

В.Навадворская назвала сутнасьць цяперашняй расейскай улады "глыбока камуністычнай, імперскай, антыдэмакратычнай і маючай шчырую мэту рэстаўрацыі таталітарызму". Яна заклікала эўрапейскіх палітыкаў адмовіць Расеі ў крэдытах і інвестыцыях,"накласьці на яе эканамічныя санкцыі і блакаду", не прымаць у сябе расейскіх афіцыйных асоб і "неадкладна ўключыць у НАТА краіны Ўсходняй Эўропы і Балтыі, а таксама Украіну".

* * *

"Калі б быў новы Сталін, як добра б было ў краіне!" - заявіў на сваёй прэс-канферэнцыі, якая прайшла 13 чэрвеня ў Дзяржаўнай Думе, намесьнік старшыні Камітэта па арганізацыі работы Думы, лідар Усерасейскага патрыятычнага руху па вывучэньню спадчыны Іосіфа Сталіна Амар Бегаў. "Мне крыўдна за таго салдата, які ішоў абараняць Радзіму з імем Сталіна на вуснах, - сказаў ён. - Вывучаючы біяграфію Сталіна, мы вывучаем гісторыю Савецкага Саюзу".

Адказваючы на пытаньне прадстаўніка маскоўскага таварыства "Мемарыял" аб сацыяльнай базе руху, А.Бегаў паведаміў, што "мы разьлічваем на ўсіх сумленных людзей, на людзей, адданых Савецкаму Саюзу". На яго думку ў час сталінскіх рэпрэсій зьнішчаліся "не дзесяткі мільёнаў простых грамадзян, а здраднікі Радзімы".

"Кожнаму савецкаму чалавеку Сталін хацеў дабра", - заявіў старшыня створанага ў 1991 годзе ў Дагестане Руху па вывучэньню спадчыны Сталіна.

**(Э.-Х.)**

